# Ніва

 БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК 

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 16 (738) ГОД XV БЕЛАСТОК 19 КРАСАВІКА 1970 г. ЦАНА 60 гр.

## 22 КРАСАВІКА - 100 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЛЕНІНА

**«Як дэмакраты, мы безумоўна супраць усякага, хоць бы найменшага, прыгнёту якой-небудзь нацыянальнасці, усякага прывілею той ці іншай нацыянальнасці, мы патрабуем, як дэмакраты, свабоды самавызначэння нацый у палітычным значэнні гэтага слова..., г.зн. свабоды аддзялення. Мы патрабуем безумоўнага раўнапраўя ўсіх нацый у дзяржаве і безумоўнай аховы правоў кожнай нацыянальнай меншасці».**

**(ЛЕНІН)**

## РОЎНЫЯ СЯРОД РОЎНЫХ

Ідэі Леніна ў нацыянальным пытанні пасля перамогі Кастрычніка знайшлі праўнае выражэнне ў славутай «Дэкларацыі правоў народаў Расіі», якая, між іншым, аб'явіла роўнасць народаў і свабоднае развіццё нацыянальных меншасцей. Ленінская нацыянальная палітыка заняла адно з галоўных месц у пабудове сацыялізма ў СССР, была ў ёй цэментуючай сілай. Моц яе ўбачыў свет у гады апошняй вайны, калі ўвесь савецкі народ, незалежна ад нацыі, самаахвярна ўстаў на абарону сваёй супольнай айчыны.

Ленінскія ідэі былі паложаны і ў асновы нашай дзяржавы — Польскай Народнай Рэспублікі. Народная ўлада ад пачатку свайго існавання зраўняла грамадзян краіны ў правах. Адгэтуль аб лёсе чалавека ў Польшчы вырашае не яго нацыянальнае паходжанне ці веравызнанне, а яго праца. Знайшло гэта адпаведнае адлюстраванне і ў Канстытуцыі ПНР, у якой (артыкул 79) гаворыцца: «грамадзяне ПНР незалежна ад нацыянальнасці, расы і веравызнання, маюць роўныя правы ва ўсіх галінах дзяржаўнага, палітычнага, гаспадарчага, грамадскага і культурнага жыцця».

Наша канстытуцыя гаворыць таксама, што парушэнне гэтага правіла караецца. Таксама забаронена шырыць нацыянальную нянавісць ці пагардлівасць.

Ленінскія ідэі, за якія змагаліся ў міжваенны час перадавыя сыны польскага народа, поўнасцю ажыццяўляюцца ў нашыя дні. Сведчаннем гэтага і наш, беларускі прыклад. Беларусы ў даваеннай Польшчы былі на каланіяльных правах: не маглі займаць пасад у дзяржаўным апараце, не мелі ані сваіх школ, ані легальных арганізацый. Беларускі рабочы выконваў найцяжэйшую працу.

З адыходам аджыўшай палітычнай сістэмы, змяніліся і адносіны дзяржавы да беларусаў. Бадай, няма цяпер у Польшчы такой галіны народнай гаспадаркі, дзе б не можна было сустрэць выхадцаў з нашых (забітых раней) вёсак. Народная ўлада адкрыла нашай моладзі шырокі доступ да навукі, стварыла неабмежаваныя магчымасці старту ў жыццё. У ваяводстве, у якім да вайны не было ніводнай школы на беларускай мове, цяпер звыш 13 тысяч беларускіх дзяцей у дзяржаўных школах навучаецца роднай мове. Якімі далёкімі здаюцца нам тыя часы, калі нашы бацькі беспаспяхова выклянчвалі ў старастаў дазвол на прыватнае навучанне беларускай мове, збіралі сродкі на вы-

Працяг на стар. 4



## ЛЕНІНА ПРАСТАЕ СЛОВА

**Ішло ты з падполля праз цемень і краты,**
**Народ падымала, хадзіла па хатах,**
**У сэрца людское**
**Запаўшы іскрою,**
**Распальвала гнеў, разбівала аковы —**
**Леніна простае слова.**

**Між зорак адвечных нязгаснай і новай**
**Заззяла ты зоркаю пяціканцовай,**
**Ты залпам «Аўроры»**
**Ўзбудзіла прасторы,**
**У бездань ты скінула трон двухгаловы —**
**Леніна мужнае слова.**

**Сягоння, як песня шчаслівага лёсу,**
**Ідзеш па заводах і нашых будовах,**
**І ў полі ты з намі**
**Ідзеш трактарамі,**
**І караблямі плывеш у нябёсах —**
**Леніна мірнае слова.**

**Ты стала святое святых чалавецтва,**
**Вялікая праўда ў грудзях тваіх б'ецца.**
**Як носьбіт свабоды**
**І дружбы народаў,**
**Ты ходзіш па свету, гучыш на ўсіх мовах —**
**Леніна мудрае слова.**

**Андрэй Александровіч**

## ГАЙНАЎСКІ АДДЗЕЛ

Гайнаўскі аддзел Беларускага таварыства лічыцца ў Галоўным праўленні асноўным, таму што там найбольш маем членаў і гурткоў БГКТ, найбольш школ, у якіх выкладаецца беларуская мова, найбольш падпісчыкаў «Нівы», найбольш беларускага насельніцтва. Праўда, што на Гайнаўшчыне нашае таварыства мае таксама і найбольшыя дасягненні ў сваёй дзейнасці. Пакажам гэта на прыкладзе мінулага года.

Існавала там 69 гурткоў БГКТ. Праўленне аддзела ў мінулым годзе не настаўлялася на павелічэнне гурткоў, але на разбудову існуючых, на паляпшэнне іх культурна-асветнай працы, таму ўзрасла наша арганізацыя на Гайнаўшчыне толькі на 152 асобы, і ў канцы 1969 года налічвалася там 2285 членаў. У галіне дзейнасці прапагандова-палітычнай гайнаўскі аддзел значна апярэджвае іншыя аддзелы. У мінулым годзе актыўна ўключыўся ён у выбарчую кампанію да Сейма і рад нарадовых.

На аснове праграмы павятовага камітэта Фронту адзінства народа ўвесь актыў уключыўся да працы. Усе актывісты выконвалі функцыі членаў выбарчых камісій і выказалі высокую палітычную свядомасць.

Але найбольшую ролю аддзел адыграў у святкаванні 25-ай гадавіны Народнай Польшчы. Аддзел апрацаваў найбагацейшую праграму з усіх арганізацый на Гайнаўшчыне. Было праведзена 46 дакладаў, арганізавана там два фестыны, 17 вечарын, 33 гутаркі, 30 сустрэч, 34 фотавыстаўкі, 34 фільмы, 22 канцэрты «Лявоніхі», шмат канцэртаў аматарскіх калектываў, было абслужана 49 гурткоў з гутаркай на тэму 25-ай гадавіны ПНР, у 5-ці мясцовасцях арганізаваны грамадскія чыны. Аддзел прыступіў да агульнапольскага конкурсу «Кожны дзень служым Народнай Айчыне».

У мінулым годзе з нагоды 51-ай гадавіны Савецкай Арміі былі арганізаваны 2 акадэміі, а з нагоды Дня жанчын па ініцыятыве аддзела адбыліся акадэміі ў Дубічах Царкоўных, Гайнаўцы і Чыжах.

А зноў на аснове плана павятовага камітэта партыі адносна святкавання 1-га Мая аддзел супольна з актывам ЗМВ арганізаваў акадэміі ў Дубічах Царкоўных, Луцэ, Семяноўцы, Палічнай і Арэшкаве.

Адзначэнне гадавіны Войска Польскага адбывалася разам з 30-ай гадавінай трагічнага верасня. Былі арганізаваны сустрэчы з палкоўнікамі Я. Анацікам і Т. Чайкоўскім у Беларускім ліцэі і Старым Ляўкове. Былі таксама з гэтай нагоды арганізаваны дзве вечарыны. А з нагоды 52-ай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі былі арганізаваны акадэміі ў Дубічах Царкоўных, Старым Ляўкове, Махнатым, Трасцяніцы.

Беларускае таварыства супрацоўнічае з аддзелам культуры і асветы, са школамі, маладзёжнымі арганізацыямі, бібліятэкамі, клубамі. Супрацоўніцтва гэта праяўляецца ў распаўсюджванні выдавецтваў ГП, арганізацыі дэкламатарскіх конкурсаў, эліміняцый гурткоў мастацкай самадзейнасці, у святкаванні Дзён кніжкі і друку, Дня дзеяча культуры. Многа ўвагі ў Гайнаўцы адводзіцца Этнаграфічнаму музею БГКТ у Белавежы, зборцы экспанатаў да яго. З гэтай мэтай кіраўнік гэтага музея Ул. Гацута правёў шмат спатканняў з гарцэрскімі дружынамі і насельніцтвам і заахвочваў іх да збірання помнікаў нашай матэрыяльнай культуры. А з павятовым праўленнем гарцэрскага гуфца аддзел апрацаваў план зборкі экспанатаў. Каб пашырыць чытальніцтва беларускай

(Працяг на стар. 3)

НАДЗЕЯ КРУПСКАЯ



# ЛЕНІН ЯКІМ ЁН БЫЎ

**Сярод шматлікіх успамінаў, якія з'яўляюцца ў друку ў сувязі са стагоддзем з дня нараджэння У. І. Леніна, ёсць і ніколі раней не апублікаваныя. Да іх адносіцца дакумент, які жонка Леніна назвала «Мае адказы на анкету Інстытута мозгу ў 1935 годзе». Самая анкета не захавалася, аднак па характару адказаў, частку якіх мы публікуем ніжэй, можна ўявіць пытанні, заданыя Крупскай.**





...Хадзіў хутка. Пры хадзьбе не хістаўся і рукамі асабліва не размахваў.

Няўклюдай не быў, хутчэй спрытны.

Гуляў у гарадкі. Плываў, добра катаўся на каньках, любіў катацца на ровары... На Волзе мясціны не грыбныя, дзе ён жыў. Калі я прыехала да яго ў ссылку, мы часта хадзілі ў лес па грыбы. Вочы ў яго былі добрыя, і калі ён (хутка) навучыўся шукаць і знаходзіць грыбы, то шукаў з азартам... Любіў паляванне. Страшна любіў хадзіць па лесе наогул.

...Манернасці, вычварнасці, дзівацтваў, тэатральнасці, пазіравання ў рухах не было.

Міміка і жэстыкуляцыя заўсёды былі выразныя.

...Усміхаўся вельмі часта. Усмешка добрая — яхіднай і «ветлівай» яна не была.

Ух, як умеў рагатаць. Да слёз. Адкідваўся назад пры хохаце.

Голас быў гучны, але не крыклівы, грудны. Барытон. Спяваў. Рэпертуар: «Нас венчали не в церкви», «Я вас люблю, люблю безмерно», «Замучен тяжёлой неволей», «Варшавянка», «Вставай, подымайся рабочий народ», «Смело товарищи, в ногу», «Дзень настал веселый мая», «Беснуйтесь, тираны».



Гаварыў заўсёды з запалам — ці было гэта выступленне ці гутарка. Бывала часта — ён вельмі эмацыянальны быў, — рыхтуючыся да выступлення, ходзіць па пакою і шэптам гаворыць — артыкул, напрыклад, які рыхтуецца пісаць. На прагулцы, бывала, ідзе моўчкі, сабраны. Тады я таксама не гавару, даю яму ўвайсці ў сябе. Затым пачынаў гаварыць падрабязна, дакладна і вельмі не любіў устаўных пытанняў. Пасля спрэчак, дыскусій, калі вярталіся дамоў, быў часта змрочны, маўклівы, расстроены. Я ніколі не распытвала — ён сам заўсёды потым расказваў — без пытанняў.

На прагулках часта здаралася, што якая-небудзь рэпліка паказвала, што, гуляючы, ён напружана думаў, абдумоўваў і г.д.

Зрокавая памяць дасканалая. Твары, старонкі, радкі запамінаў ён вельмі добра. Добра ўтрымліваў у памяці... падрабязнасці бачанага.

Страшэнна любіў прыроду. Любіў горы, лес і захады сонца. Вельмі цаніў спалучэнне колераў. На сваю адзежу звяртаў увагі мала. Думаю, што колер яго гальштука быў яму абыякавы. Ды



і да гальштука адносіўся ён як да невыгаднай неабходнасці.

Наогул вельмі эмацыянальны. Усе перажыванні былі эмацыянальныя.

Звычайны, пераважаючы настрой — напружаная сканцэнтраванасць.

Вясёлы і жартаўлівы.

Заўсёды арганічная нейкая сувязь з жыццём. Самакрытычны — вельмі строга адносіўся да сябе. Але капанне і пакутлівы самааналіз у душы ненавідзеў. Калі вельмі хваляваўся — браў слоўнік (напр. Макарава) і мог гадзінамі яго чытаць.

Быў баявы чалавек.

Наогул быў гарачы.

Азарт на паляванні — поўзанне за качкамі на карачках. Непатрэбнай рызыкі — дзеля рызыкі — няма. У ваду скакаў першы. Ні палахлівасці, ні баязлівасці.

Смелы і адважны.

(«Спутнік»)





**Увага, настаўнікі і вучні!**

# IX МІЖШКОЛЬНЫ КОНКУРС

Сёння публікуем правілы IX Міжшкольнага беларускага дэкламатарскага конкурсу. Лічым на масавы ўдзел усіх вучняў і школ у конкурсе.

## ПРАВІЛЫ

1. Арганізатарамі конкурсу з'яўляюцца: Кураторыя беластоцкай школьнай акругі, Акруговы метадычны цэнтр, Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і рэдакцыя тыднёвіка «Ніва».

2. Мэтамі конкурсу з'яўляюцца:

— Папулярызацыя сярод беларускай школьнай моладзі найбольш каштоўных твораў беларускай літаратуры;

— паказанне прыгажосці беларускай мовы;

— павышэнне ролі беларускай мовы як прадмета ў беларускіх школах;

— прывучанне малодшых школьнікаў да самастойнай працы над літаратурным творам і да публічнай дэкламацыі.

3. Конкурс з'яўляецца культурным мерапрыемствам, маючым ідэйна-выхаваўчыя вартасці; ён абымае вучняў класаў I—IV пачатковай школы.

4. Конкурс працягваецца ад 1 красавіка па 31 мая 1970 года і будзе праходзіць у двух этапах:

а) уступныя школьныя агляды, да 15 мая;

б) павятовыя агляды, да канца мая 1970 года.

5. Колькасць удзельнікаў конкурсу ў школах — неабмежавана. У павятовым аглядзе прымаюць удзел вучні, якія занялі 2 першыя месцы ў школьным аглядзе.

Публічныя выступленні як на першым, так і на другім этапе павінны мець характар урачыстых мерапрыемстваў з удзелам насельніцтва.

6. Школьная моладзь, прыступаючая да конкурсу, павінна падрыхтаваць па два вершы беларускіх аўтараў паводле ўласнага выбару.

7. Для ацэнкі вынікаў конкурсу будзе створана камісія, якая ацэньвае паводле наступнай пунктыроўкі:

а) за падбор рэпертуару — ад 1 да 5 пунктаў;

б) за інтэрпрэтацыю — ад 1 да 5 пунктаў;

в) за культуру слова — ад 1 да 5 пунктаў;

г) за агульны мастацкі выраз — ад 1 да 5 пунктаў.

8. Кошты павятовых аглядаў, звязаныя з давязеннем моладзі і ўзнагародамі, пакрываюць павятовыя аддзелы асветы. Узнагароды ў павятовых аглядах будуць прызнаваць Кураторыя беластоцкай акругі і ГП БГКТ.

# ГАЙНАЎСКІ АДДЗЕЛ

(Пачатак на стар. 1)

кніжкі, па ініцыятыве аддзела было арганізавана 7 бібліятэчных пунктаў і цяпер налічваецца іх 48. У мінулым годзе багатая таксама была праграма аддзела святкавання Дня настаўніка. Актывісты БГКТ уключаліся да арганізавання мясцовых грамадскіх акадэмій, на якіх выступалі з прамовамі і высока ацэньвалі ролю настаўнікаў у беларускай арганізацыі. Варта адзначыць яшчэ і тое, што інструктар ГП на Гайнаўскі аддзел Віктар Бура ўкладае шмат працы і намагаецца, каб у павеце было як найбольш падпісчыкаў «Нівы», каб адбываліся спатканні з журналістамі «Нівы», каб як найбольш адбылося аўтарскіх сустрэч з нашымі літаратарамі, каб як найчасцей прыязджала ў вёскі кінаперасоўка ГП і эстрада «Лявоніха».

Гайнаўскі харавы калектыў у мінулым годзе набіраў творчых сіл для таго, каб цяпер, калі шырока адзначаецца 100-ая гадавіна з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна, даць як найбольш канцэртаў.

(МХ)

